Год VI. Чэрвень № 6 (66).

# Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 6:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.

„ на паўгода. . . . . 1 зл.

„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год VI. | Вільня, Чэрвень 1934 г. | № 6 (66). |
| --- | --- | --- |

## ШЛЯХ МОЛАДЗІ.

Шлях народны к лепшай долі
Лёг праз нашае жыцьцё...
Ярка сьвеціць зорка волі,
Хоць навокал сумна ўсё.

Моладзь, дружна! У дарогу!
Охі з сэрца выкідай...
Лева-права— ўсе у ногу,
А па зорцы той раўняй,
Дружна, моладзь! На дарогу...
Зло з карэньнем вырываць
І для волі — проч зьнямогу! —
Шлях народны расшыраць!

Ўлад-Ініцкі.

## БРАТОМ.

Ня гнемся, браты, пад цяжарам нядолі,
Пад цяжкай навалай маркотлівых дум,
У сэрцах нашых ня будзе хай болей
Маўкліва-пануры, бязьлітасны сум.

З бадзёрым абліччам, бяз страху й трывогі,
У вочы няпраўдзе адважна глядзем,
З нязломнаю верай у дні перамогі
Да сьветлае мэты, да сонца ідзем.

Даўно ўжо народ наш цярпіць і чакае
Пазбыцца каб цемры аковаў цяжкіх,
І повен надзеі на нас пазірае,
На нас, поўных сілы сыноў маладых.

Ці-ж можам спакойна глядзець мы на мукі
І слухаці стогны бяздольных людзей?
Падайма-ж друг другу мазольныя рукі
І пойдзем змагацца за долю хутчэй!

Праз гора людзкое, праз крыўды і зьдзекі
Кліч волі і праўды нясём упярод,
І згіне нядоля цяжкая навекі
І вольна ўздыхне наш пакутны Народ!

С. Гаротны.

**Ад. Станкевіч.**

4)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

*З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага рэд. „Mužyckaj Praŭdy“ (†1864) і 50-лецьця „Гомону“ (1884)*

## IV. К. Каліноўскі — пачынальнік беларускага палітычнага вызваленьня.

Аб Капіноўскім даводзілася ўжо мне пісаць даволі шырока з нагоды 70 лецьця беларускай прэсы[1]). Дзеля гэтага ў гэтых нарысах — з нагоды 70-лецьця яго сьмерці — аб Каліноўскім скажу толькі агульна і прытым пераважна толькі тое, што ня было сказана аб ім у маей працы ранейшай і ўрэшце тое, што мае паказаць нам Каліноўскага, як пачынальніка беларускага палітычнага вызваленьня.

Радзіўся К. Каліноўскі ў 1838 г. ў фальварку Мастаўляны, недалёка ад Ялоўкі, Ваўкавыскага павету, гадаваўся ў фальв. Якужоўка, таго-ж павету, недалёка ад Сьвіслачы. Бацькі яго былі каталіцкай беларускай спольшчанай шляхтай. Магчыма, што яны з уніятаў, бо Кастусь у сваей „Mużyckaj Praudzie“ — пад мянюшкай Яська Гаспадар з пад Вільні — ў вадным месцы прыпамінае беларускім сялянам, што ён фактычна такі-ж самы „мужык“ як і яны „ды яшчэ й уніякай веры“. Ведама, можа гэта ў Каліноўскага толькі агітацыйны зварот, але можа гэта і адгалосак шчырай праўды. Не забываймо, што сярод беларускай шляхты былі і праваслаўныя і уніяты, якія ўрэшце аканчальна папераходзілі ў лацінскае каталіцтва.

Бацька Кастуся паходзіў з Рэплі, усё таго-ж Ваўкавыскага пав. Быў, як сам аб сабе кажа, „rękodzielnik“, займаўся вырабам „obrusów i serwet“. Граматы вучыўся дома, меў „wychowanie domowe“[2]).

Вучыўся Кастусь сьпярша ў Сьвіслацкай гімназіі, а пасьля паўгода (1855) у Маскоўскім і ўрэшце ў Пецярбурскім унівэрсытэце, які скончыў у 1860 г. з стопнем кандыдата права.

У унівэрсытэце Кастусь Каліноўскі ня толькі вучыўся права, але адначасна знаёміўся з справамі грамадзка-палітычнымі і належыў да народніцкіх рэвалюцыйных арганізацыяў. Вышаў наш малады Кастусь з унівэрсытэту ідэйным рэвалюцыянэрам-народнікам. Працу сваю палітычную пачаў

1) Ad. Stankiewič — K. Kalinoŭski „Mužyckaja Prauda“ i Ideja Niezaležnaści Biełarusi. Wilnia 1933.

2) Aud. Pol. t. 2 Nr. 917 бач. 887. 1864 г. (Сьледчая справа Сымона Каліноўскага, бацькі Кастуся ў Дзярж. Арх. у Вільні).

у роднай Горадзеншчыне сярод беларускага народу. Дзеля гэтай мэты летам 1862 г. у Беластоку наладзіў патаемную друкарню, у якой, як ужо ўспомнена, пад мянюшкай Ясько Гаспадар з пад Вільні выдаваў беларускую часопісь „Mużyckaja Prauda“.



**Кастусь Каліноўскі.**

Калі ў пачатку 1863 г. выбухла ў нашым краі польскае паўстаньне, Каліноўскі да яго далучыўся і стаўся сьпярша палітычным камісарам Горадзеншчыны, а пасьля, калі паўстаньне ўпадала, абняў над ім дыктатарства Літвы і Беларусі.

Праз увесь час сваей рэвалюцыйна-вызвольнай працы, Каліноўскі належаў да кірунку польскіх дэмакратаў-народнікаў і з імі супрацоўнічаў, а з польскім цэнтральным нацыяналістычна-захопніцкім камітэтам, з прычын ідэовых розьніц у паглядах, быў у пастаяннай нязгодзе.

29.I.64 Каліноўскі быў жандарамі Мураўёва злоўлены, асуджаны на сьмерць і 10.III старога стылю таго-ж 1864 г.

на лукіскім пляцы ў Вільні павешаны, калі яшчэ меў усяго толькі 26 гадоў веку.

У гэтых нарысах ужо ўспаміналася, што беларускае палітычнае вызваленьне пачалося з тэй грамадзкай клясы, на якой беларускае палітычнае жыцьцё занепала. Фармальна палітычная самастойнасьць нашага народу перастала існаваць на Люблінскай Уніі 1569 г., а фактычна значна пазьней. Яшчэ праз некаторы час па Люблінскай Уніі, аж да пачаткаў XVII ст., Беларусь і Літва шмат мелі палітычных і іншых правоў, якіх яны стойка баранілі. Так напр., ня глядзячы на палітычную унію з Польшчай, Беларусь і Літва мелі яшчэ сваё асобнае ад Польшчы войска, асобныя законы і некаторыя асобныя дзяржаўныя пасады. Нават грошы і тыя аж да першай паловы XVII ст. былі асобныя ў Кароне і ў Вялікім Княстве[1]).

Апошнім, сапраўды дастойным абаронцам астаткаў палітычнай і культурнай асобнасьці нашага народу і ўсіх беларуска-літоўскіх зямель[2]) быў слаўны канцлер Вялікага Княства Літоўскага вялікі Леў Сапега. А ўжо па ім Польшча хутка зруйнавала ўсю палітычную асобнасьць Беларусі і Літвы і зраўняла іх з землямі этнаграфічнай Польшчы.

Беларускія магнаты, як бачым, былі апошнімі абаронцамі палітычных правоў беларускага народу, бо яны належылі да пануючай і кіруючай клясы ў народзе. Першымі-ж пачынальнікамі палітычнага адраджэньня беларускага народу былі ўжо прадстаўнікі дробнай шляхты, бо абяднелай і гэтым зьбліжанай да народу. Гэта дробная і абяднелая, аканчальна не апалячаная шляхта, была адзінай свайго роду інтэлігенскай клясай у народзе, якая зьберагла памяць аб яго мінуўшчыне і аб яго нацыянальнай асобнасьці ад палякоў. І трэба было толькі адпаведнага часу, аказіі, каб гэная беларуская дробная шляхта, як асьвечаная і вольная няпрыгонная кляса, узноў стала на чале беларускага народу.

Гэткім адпаведным часам і адпаведнай аказіяй былі тыя ідэйныя кірункі, якія панавалі ў XIX ст. ў Эўропе і якія дайшлі да нас, а першай асобай, скарыстаўшай і з гэных кірункаў і з гэных аказіяў да дзейнага выступленьня за волю народу, быў К. Каліноўскі, аканчальна не апалячаны беларускі шляхціц, а толькі абяднелы і соцыяльна дужа блізкі да свайго роднага брата прыгоннага селяніна.

Прыгледзімся ж бліжэй да асобы К. Каліноўскага, як першага ідэйнага барацьбіта на беларускіх гонях за лепшы палітычна-соцыяльны лёс беларускага народу.

---

1) Праф. У. Ігнатоўскі — Кароткі нарыс Гісторыі Беларусі — Вільня 1921 г. бач. 71.

2) Украінскія землі: Валынь, Падольле, а так-жа і Падлясьсе на Люблінскай Уніі былі далучаны да Польшчы, як землі каронныя.

Вось-жа Каліноўскі — гэта быў сапраўды першы беларускі народнік, які першы будзіў народ беларускі, пасьля яго доўгай сьпячкі ў няволі палітычнай і соцыяльнай, да вольнага жыцьця. Праўда, беларускае яго народніцтва ня можна разумець так, як гэта мы разумеем сяньня. Сяньня беларус-народнік гэта той, хто разумеючы беларусаў як асобную нацыю, імкнецца ня толькі да таго, каб палепшыць і зрабіць вольным эканамічна грамадзкае жыцьцё беларусаў, але так-жа і да таго, каб народ гэты на ўсіх сваіх этнографічных землях дабіўся поўнай палітычнай незалежнасьці і ўсё сваё эканамічнае, грамадзкае і культурнае жыцьцё будаваў прадусім на сваіх уласных нацыянальных падставах. Гэтак шырока і поўна справы беларускага народу Каліноўскі яшчэ не разумеў. Ён яе разумеў настолькі, наскольні разумець яе пазвалялі яму тагочасныя ідэовыя кірункі ў падобнай справе і наскольні рабіць яму гэта пазваляла і вымагала тагочаснае палітычна-соцыяльнае палажэньне беларускага народу. Нацыянальная асобнасьць беларускага народу была яму яснай. Аб гэтым шмат пісалі і гаварылі лепшыя расейцы: Бакунін, Гэрцэн і інш. у „Колоколе“ (1857—1867), а так-жа Украінцы: Костомараў, Шэўчэнка і інш. Ідэямі-ж якія пашыралі гэтыя людзі, як сьведчаць многія гісторыкі[1]), Каліноўскі жыў і карміўся. Але яшчэ больш ясным фактам была для яго паншчына на Беларусі, поўная соцыяльная няволя беларускага народу і поўная няволя палітычная пад ярмом расейска-царскай улады. Вось-жа першай баявой задачай для Каліноўскага было ня толькі скончыць аканчальна з паншчынай[2]), але агулам скончыць з панскай над беларусамі апекай, надзяліўшы беларусаў зямлёй на ўласнасьць і зрабіўшы іх вольнымі соцыяльна і так-жа скончыць з царскім уціскам палітычным, надзяліўшы беларусаў палітычна-грамадзкімі правамі. Надзяліць жа гэнымі правамі беларусаў, абараніць гэныя правы, іх угрунтаваць і павялічыць было-б магчыма ў вачох Каліноўскага толькі тады, калі-б народ наш незалежыў сусім ад царскай Расеі і ад польскіх паноў, будучы з Польшчай злучаны толькі фэдэрацыйна.

Але й тут трэба нам выясьненьня. У Каліноўскага ня было — бо і не магло быць — беларускага нацыяналізму ў сучасным разуменьні, але ў яго, як і ў многіх са шляхты, былі яшчэ жывыя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, ці як тады казалі, проста Літвы, гэта знача — прадусім традыцыі адзінства зямель Літвы і Беларусі. Вось-жа Каліноўскі меў на мэце вызваленьне ад расейцаў і паноў усяго нашага

---

1) Гл.. **Ad. Stankiewicz — Kastuś Kalinoŭski.**

2) Трэба ведаць, што хоць цар маніфэстам паншчыну скасаваў у 1861 г., аднак яна фактычна ў нас была скасавана толькі ў 1863-4 г.

краю: Літвы і Беларусі разам. Імкнуўся ён да таго, каб літоўска-беларускія землі, ці Літва, як іх звалі і як ён іх зваў, былі фактычна палітычна незалежныя, злучаныя з Польшчай толькі на правох вольнай фэдэрацыі. Каліноўскага звалі сучасьнікі яго так-жа Літоўцам, гэтакім і ён сябе называў. Паляком не называў ён сябе ніколі, бо гэткім ён не пачуваўся. Фактычна-ж ён быў беларускім народнікам, бо бадай выключна працаваў для і сярод беларускага народу і для яго выдаваў першую ў беларускай мове часопісь „Mużyckuju Praudu" і іншыя беларускія друкі.

Для зямель этнографічна-літоўскіх у тым-жа духу працаваў Кс. Мацкевіч. У папярэднім разьдзеле ўспомнена, што фэдэрацыю можна разумець як крайнюю дэцэнтралізацыю дзяржавы, як самы шырокі самаўрад. Вось-жа Каліноўскі ў сваіх друках і Мацкевіч у сваіх паказаньнях і выясьненьнях расейскім уладам па сваім арышце жадаюць для нашых зямель „самаўрадзтва"[1]). Але ня думаймо, што гэта „самаўрадзтва" надта вузка разумелася: не — у яго паняцьце ўходзіў краёвы сойм і краёвая ўлада для ўнутраных спраў краю. Вось у гэткім значэньні Каліноўскі быў беларускі народнік і пачынальнік беларускага палітычнага вызваленьня.

Каліноўскі, — як і беларускі, і літоўскі народ, і бадай большасьць дробнай шляхты, — быў фактычна проціў паўстаньня, бо ня верыў у яго ўдачу і было яно нязгоднае з яго ідэолёгіяй. На чале паўстаньня сталі буйныя польскія паны, якія на Беларусь і Літву глядзелі як на звычайныя польскія правінцыі і якія яны імкнуліся далучыць да Польшчы бяз ніякіх засьцярог. Да таго-ж ня было надзеі, каб паны гэныя, здабыўшы палітычную ўладу ў краі, належна надзялілі сялян зямлёй і далі ім адпаведныя палітычныя і грамадзкія правы.

Польшч хутка запалілася да паўстаньня — кажа Каліноўскі ў сваім уласнаручна напісаным паказаньні на судовым сьледзтве — бо ў яе ўжо такі характар. А Літва, як больш сур'ёзная, была асьцярожнай дый варожай да паўстаньня. А да таго Польшч ня брала пад увагу інтарэсаў Літвы. Сяляне Літвы ўважалі, што зямля ўся іх і што паны яе даць ім ня хочуць. Яны бачылі ў паноў яшчэ не абрэзаныя ногці і паўстаньне лічылі справай панскай, што падзержаваў і ўрад[2]).

Гэткіх паглядаў быў і сам Каліноўскі, але калі паўстаньне сталася фактам, ён, — як сам у тым-жа паказаньні

---

1) Тэчка дакумантаў да справы Кс. Мацкевіча ў Дзярж. Арх. у Вільні.

1) Aud. Pol. Nr. 280, 1864

выражаецца, — як уражэнец гэтага краю мусіў выступіць у імя дабра народу[1]).

І гэта сусім зразумела. У той час былі дзьве магчымасьці: або разам з народнікамі украінскімі і расейскімі абярнуць царызм і стварыць фэдэрацыю славянскіх народаў з Расеяй на чале, або да такіх-жа мэтаў імкнуцца, апёршыся аб Польшч.

І сапраўды, гэткія існавалі тады два палітычныя пагляды, з якімі стыкаўся Каліноўскі. Тым часам на расейскую рэвалюцыю трэба было яшчэ чакаць, а польская ўжо сталася фактам. Ясна, што Каліноўскі мусіў яе выкарыстаць. Да таго-ж польскія рэвалюцыйныя арганізацыі паддзержваныя заграніцай былі куды сільнейшыя, як расейскія, у арганізацыях гэных былі так жа народнікі фэдэралісты, як і сам Каліноўскі, а ўрэшце ён — як і ўся тады Літва і Беларусь, — культурна ўсёж-дыкі быў да Польшчы недалёкі[2]). Як беларускі аднак народнік, як той, што займаў у гісторыі пасярэдняе месца між Польшчай і Расеяй і як ідэйны дэмократ, Каліноўскі ня меў нацыянальнай ненавісьці да Расеі, што асабліва ў той час так было папулярным у Палякоў. „Я — казаў ён — не праціўнік народнага шчасьця і Расеі, калі яна нам дабра жадае, а праціўнік тых бед, якія адведваюць край наш“[3]).

Аднак усё прагаварвала за тым, што Каліноўскі мусіў разам выступіць з Польшчай проціў царскай і панскай няволі і папрабаваць шчасьця, папрацаваць для дабра беларускага паднявольнага народу. І ён выступіў, справядліва заслужваючы прад беларускім народам на пачэснае імя першага барацьбіта за палітычна-социяльнае вызваленьне беларускага народу.

(д. б.)



---

1) „Въ моемъ сознаніи я преступникъ не по убѣжденію, но по стеченію обстоятельствъ. А потому пусть и мнѣ будетъ дозволительнымъ утѣшать себя надеждою, что возсоздастся народное благо. Дай Бог только, чтобы для достиженія этого потомки наши не проливали лишней братней крови“. Aud. Pol. там-жа.

2) „Сѣть обхватывающая насъ во всѣхъ классахъ и соединяющая съ Польшей, имѣетъ столько основаній въ традиціяхъ и даже въ предрассудкахъ, что распутать ее, уничтожить и возсоздать что либо новое, составляетъ вѣковой, систематическій и разумный трудъ“. (Aud. Pol., там-жа).

3) Aud. Pol. там-жа.

# Zakładajmo padvaliny novaha ładu!

(*Z nahody Dnia Kooperacyi*).

Kryzys — heta tak popularnaje, ale nia miłaje słova nie ŭciakaje, a ŭściaž visić nad nami, jak abuch i nie daje mahčymaści narmalnaha žyćcia. Uściaž adny haładajuć, a druhija marnujuć, abo zusim niščać pradukty. A vyzysk i systema kapitalistyčna-buržuazyjnaha haspadaravańnia, jakija zaviali ekanamičnaje, a tak-ža i maralnaje žyćcio na biezdarožža, trymajuć jaho na dalej u svaich kapciuroch, nie znachodziačy vychadu. Staryja haspadarčyja i hramadzkija formy vačavidna valacca i paŭstaje kanieśnaść šukańnia novych žyćciovych šlachoŭ.

Najbolš realnym takim novym šlacham źjaŭlajecca kooperacyja, ab jakoj my ŭžo nia raz pisali i ciapier pišučy, jašče raz padčorkivajem, što heta sapraŭdny šlach da ekanamičnaha adradžeńnia našaha žyćcia, što heta šlach da novaha hramadzkaha ładu, ładu hramadzkaje i asabistaje volnaści, što heta šlach da hramadzkaje spraviadlivaści i vyrableńnia našaha asabistaha i narodnaha. Prypaminajem tak-ža, što kooperacyja łučyć ludziej, nia sieje nienaviści, što jość jana najmahutniejšym, u sučasnym našym pałažeńni, aružžam u baraćbie z kapitalizmam i vyzyskam roznaha rodu pasrednikaŭ. Kooperacyja — heta jak-by biaskryvavaja revalucyja dla lepšaha zaŭtra.

Śvietłyja ludzi, pryjacieli pracoŭnych masaŭ, razumiejučy dobra značeńnie kooperacyi, jak maha pravodziać jaje ŭ žyćcio. Kapitalizm stavić im roznyja pieraškody, jakija adnak nie paŭstrymajuć razvoju kooperacyi.

U biełaruskim žyćci tak-ža prabavali ludzi pravodzić kooperacyju. Dziakujučy adnak paviarchoŭnaści i niepadhatovanaści jaje apostałaŭ i niavyrablenaści hramadzkaj samych siabroŭ, kooperatyŭnaja akcyja ŭpała. Adnak nie nadoŭha — jana voś iznoŭ padniałasia i raźvivajecca.

Praŭda, ciažki los biełaruskaje kooperacyi, bo jana napatykaje pieraškody nia tolki biespasredna ad kapitalistaŭ, ale jašče i z inšych bakoŭ. A heta tamu, što biełaruskaja kooperacyja viadzie naš narod nia tolki da vyzvaleńnia ad kapitalistyčnych vyzyskaŭ, ale da poŭnaj samastojnaści.

Apošnim časam navahradzkija administracyjnyja ŭłady nie dali navat dazvołu na sklikańnie arhanizacyjnaha schodu dziela załažeńnia kooperatyvy ŭ m-ku Niehniavičach, bo heta byccam mahło zaškodzić publičnamu paradku. Heta nia pieršaja i chiba nie apošniaja pieraškoda z hetych kruhoŭ u arhanizavańni biełaruskaje kooperacyi. Usio adnak musim pieramahčy i musim biazupynna šlacham kooperacyi ići da adradžeńnia našaj Baćkaŭščyny.

U radoch kooperataraŭ pavinna jak najbolš znajścisia moładzi, bo my — *maładaja ḫvardyja pracy* — jak kaža M. Mašara — *pryšli zmaḫacca i kłaści padvaliny novaḫa ładu.* Dyk-ža

„Natoŭpami ščylna i śmieła,
Što šah, to my bližej da sonca.
U hrudzioch našych siła i viera
I vola pakutnaj staroncy“.

J N.

---

# Červień.

Červień — 6-ty miesiac hodu. U rymlanaŭ — iunius; franc. — juin; niam. — Juni; anh. — June. U słavianaŭ i starabiełaruski nazoŭ — izok; česki, serbski, słavacki i ukrainski — červień; rasiejski — juń; polski — czerwiec.

Biełaruski nazoŭ — červień — pachodzić ad słova „červi“ — čvarviaki, jakija źjaŭlajucca ŭ hetym miesiacy na raślinach, asablia-ž na harodninie. Inšyja ŭznoŭ ćvierdziać, što miesiac hety pabiełarusku maje nazyvacca „čyrvień“, ad słova „čyrvony“, „čyrvanieć“ (ab kraskach).

U rymlanaŭ hety miesiac byŭ paśviačany Junonie, sužoncy Jupitera, a maciery Vulkana, Heby i Marsa, adkul i atrymaŭ nazoŭ. Ad časoŭ rymskaha cara Numy Pampilija (715—673(?) h. da N. Chr.) až da 46 h. da N. Chr. červień mieŭ 29 dzion, a 30 ty dzień dabaviŭ Juli Cezar pry reformie kalendara. 9 červienia rymlanie śviatkavali ŭračystaść Vestalia ŭ čeść vestałkaŭ — žrycaŭ (aŭtarnicaŭ) Vesty — bahini damovaha ačahu (vohnišča) i apiakunki siamji, rodu i dziaržavy. Na damovym ačahu ŭ čeść henaj bahini hareŭ ahoń, a ŭ dziaržaŭnaj śviatyni 6 vestałkaŭ padtrymlivali viečny ahoń. U vestałki vybiralisia dziaŭčaty pamiž 6 i 10 hodam žyćcia, słužyli 30 hadoŭ, a paśla mieli prava vychodzić zamuž. U časie słužby vestałki pavinny byli zachoŭvać dziavoctva, a za narušeńnie jaho žyvymi zakopvalisia ŭ ziamlu. Za svaju vysokuju słužbu vestałki mieli vialikuju pašanu i kali napr. sustrakali prastupnika, jakoha viali na kaźń, dyk mieli prava pamiłavać jaho.

U staražytnych hrekaŭ u hetym miesiacy, u časie poŭni paśla letniaha soncastajańnia (kala 21), adbyvalisia Olimpijskija hulni na čeść boha Zeŭsa. Hulni hetyja adbyvalisia kožnyja 4 hady, jany ličylisia nacyjanalnym śviatam i tryvali praz piać dzion. Na hulni składalisia: bieh, barukańnie (dolańnie, chodańnie), kułačnyja bai, kidańnie drocika i kaciołki, skoki, jazda na koniach; paźniej, apračа hetaha, ihra na hitary i flejcie, piajańnie, deklamacyi i vystupańnie paetaŭ i vučonych, katoryja čytali svaje tvory. Pieramožcaŭ naharadžyvali laŭravymi viankami, a imiony ich upisyvali ŭ publičnyja rejestry.

4-letni peryjad ad adnej hulni da druhoj naz. Olimpijadaju i pa ich hreki viali svajo hodaličeńnie. Pieršaja takaja Olimpijada adbyłasia ŭ 776 h. da N. Chr. i hety hod ličycca pačatkam hrečaskaj ery.

Červień — raśćviet vlasny, čas kvietak i słavianie adznačali heta śviatkavańniem rusaliaŭ, jakija adbyvalisia z roznymi pahanskimi relihijnymi skokami ŭčaśnikaŭ.

Druhoje starasłavianskaje śviata ŭ češć sonca i ahniu — Kupała — bolš-mienš supadała z letnim pavarotam sonca (letnim soncastajańniem). Adhałoski i pieražytki hetaha śviata ŭ źmienienaj formie zachavalisia pa siońniašni dzień u šyrokich masach biełarusaŭ. Noč z 23 na 24 červienia — Kupalskaja noč — noč viedźmaŭ, čaraŭnicaŭ i roznych niačystych siłaŭ. Tamu dziaŭčaty, chłopcy i navat mužčyny dzie-niebudź na pryhorku kala vioski raspalvajuć ahoń i — hulajuć Kupała — skačuć, piajuć — (pužajuć ad vioski viedźmaŭ). Pamiž inšym, u Francyi ŭ dzień 23 červienia rabili z sałomy manekiny (čučały) i palili na ahni Pierad Kupalskaju nočaju, pry piajańni Kupalskich pieśniaŭ, źbirajucca śviata-janskija kvietki i ziołki, a 24, na śv. Jana—śvienciacca. Hetyja kvietki i ziołki, jak nieapahanienyja niačystaju siłaju, narodam ličacca vielmi pamocnymi ad čaraŭ, durnoha voka, lichadziejnych napuščeńniaŭ i chvarobaŭ.

U m cy červieni najčaściej prypadaje chryścijanskaje śviata — Siomucha, Trojca. Tydzień pa Trojcy naz. u biełarusaŭ Rusalnym tydniem, tamu što ŭ hety tydzień vychodziać rusałki z svaich sialibaŭ i chodziać pa ziamli. U šmat jakich miascovaściach Biełarusi Rusalny tydzień šanujecca jak Kalady i ŭ praciahu jaho nie pačynajuć nijakaj novaj raboty.

U červieni dzień prybyvaje tolki da 20-ha, usiaho na 26 min. 20-ha, 21, 22 i 23-ha červienia daŭžynia dnia amal adnolkavaja — letniaje soncastajańnie — i z hetaha času pačynajecca kalendarnaje i astronomičnaje leta. Najdaŭžejšy dzień u červieni maje 17 h. 19 min. Ad 24 červienia dzień pačynaje ŭbyvać i da kanca miesiaca ŭbudzie tolki na 4 minuty.

U rymska katalickim kaściele m-c červień paśviačany Chrystu — ŭsiudy adbyvajucca nabaženstvy da Serca Jezusa.

U narodnym kalendary:

1.VI. (s. s.) Justyn ciahnie ŭvierch kanopli, Charyton — lon.

8.VI. (s. s.). Na Todara rasa — kanopiel pałasa.

12.VI. Chto na Nupreja pasieje hreč, toj budzie bliny pieč.

15.VI. (s. s.) Prarok Amos ciahnie ŭharu avios.

23.VI. Na Kupału rasa — buduć ahurki. U kaho Kupała prakosy ŭbača, taho baba žnivam nie zapłača.

24.VI. Śv. Jan pčoły sadzić. Časam i Jan daść jahad zban. Na Jana sonca hulaje.

29.VI. Śv. Piotra ŭ kosy zvonić, a śv. Paŭła hrabli robić. Kali Piotra z Paŭłam płačuć — dyk ludzi praz tydzień sonca nia ŭbačuć. Kali na Piatra pojdzie doždž — žyta, jak chvošč; urodzić miatlica — chleba pałavica, a ŭradziŭ zvaniec — dyk

žytu kaniec. Na Piatra doždž — sienakos mokry. Kali ziaziulka budzie kukavać da Piatra — vosień budzie charošaja. Pryšoŭ Piatrok — adpaŭ listok, prydzie Illa — adpaduć dva, a na Usich Sviatych — nia budzie ich.

Da Ducha nia śkidaj kažucha, a pa śv. Dusie ŭ tym samym kažusie.—Na śv. Trojcu žyta krasuje.

Aśmak (8-my tydzień pa Vialikadni) dla sabak, a siemačok na abručok. (Prykazka ab žanimatvie na Siomuchu).

Dzieviatnik žyta raŭnuje.

Dziesiatnik — žyta krasuje. Dziesiatka — ŭ žycie piatka.

Kali nam žanicca, to j noč karotkaja.

Dziady ŭ subotu pierad Trojcaju — abied pa radzicielach.

*Ul. Paй—ski.*

---

# Літэратурны аддзел.

Міхась Машара.

## Сьмерць Кастуся Каліноўскага.

*У 70-тыя ўгодкі Яго сьмерці.*
*(1864 — 1934).* 3)

VII.

І лёха зноў ў сырой вязьніцы
І ў ёй Кастусь адным адзін
І думы зноў яго крынічуць,
У сьмяротным ходзе каляін.

— Памру, памру!.. няхай... ня шкода
Пражытых дзён і на'т жыцьця,
Бо ёсьць патрэбнай для народу
Ахвяра гэтая мая.

О, Беларусь! — мая Марыська!
Каханьне шчырае маё.
Бывай! — расстаньне надта блізка,
Бывай змаганьне і жыцьцё!

Бывай няволя і пакута,
Народ, засьмягшы у паўсьне,
Яшчэ няскора скінеш путы
І жыць пачнеш сабой сабе.

Народзе, ўстанеш! — і парукай
За лёс твой сёньня сьмерць мая.
З нядолі зьдзеку, крыўд і мукаў
Паўстанеш — да жыцьця!

Ня вер, ты толькі, мой народзе,
Ні дабрадзеям, ні паном,
Куй новы лёс, з сабою у згодзе
І вер — сабе і мазалём.

Спаткае чорны час — ня гніся,
У буру моцным будзь — ня трусь!
Мяне успомніш — памаліся,
А я з-за сьвету адклікнусь.

І не прадам цябе, ня здраджу,
Ні на гары, ні у лагу,
А зблудзіш ноччу — я дараджу,
Знайсьці дарогу памагу.

Бывайце й вы, сябры змаганьня
З-пад знаку белага арла.
Мы разам йшлі аж да расстаньня,
Хоць мэта розная вяла.

О сьмерць, прыходзь! Я ўжо гатовы
І ня бунтую — ня крычу.
Здымай-жа, кат, мае аковы,
Памерці вольным я хачу.

Усё аддаў!
Нічога не пакінуў
Парваў з жыцьцём я ніткі ўсе —
Адно засталась толькі — згінуць,
Трэба — згіну!
Зямелька, маць, прымі мяне!..

VIII

У Вільні рух маскоўскіх падхалімаў,
Лукіскі пляц людзьмі занят.
І шыбеніца паміж імі —
Пад шыбеніцай — царскі кат.

Зігцяць, блішчаць штыхі жаўнераў,
Грыміць сярдзіта барабан,
Праз іх паходкай цьвёрдай сьмелай
Ідзе наш Каліноўскі сам.

І з ім яго сябры змаганьня,
Героі Польшчы і Літвы.
Разьбіткі грознага паўстаньня,
Народу верныя сыны.

На эшафот Літвы дыктатар
Усходзіць цьвёрдаю нагой. —
Навокал ціш... а прокуратар
Прысуд чытае прад таўпой:

— Мяцежнік, шляхціц Каліноўскі,
На сьмерць асуджаны за бунт.
І па загаду Мураўёўскім,
Павешан сёньня будзе тут.

**Кастусь:**

— Ня шляхціц я!..
У нас паноў няма!
У нас ёсьць толькі працы люд
І за яго я гіну тут!

— — — — — — — — —

І згінуў ён — ахвярны і вялікі,
Пад шум таўпы і бубна гук
Павіс — змагар Кастусь.
І з тых ніхто ня чуў, каго ён клікаў
Ў апошні час сьмяротных мук,
Бо спала Беларусь!

*Табольск 1934.*

* * *

Вясна ідзе. Браты, да працы
Над нівай роднай зьдзірванелай!
Даволі будаваць палацы
Паном на нашай Русі Белай!

Нам трэба нашыя зярняты
Па краю родным пашыраці
І з кожнай вёскі, з кожнай хаты
Бяду і гора выганяці.

У Бога я прашу, малюся,
Каб гора наша, спынілась,
Каб вольнай быці Беларусі
І шчасьцем новым адрадзілась.

**Гаварун Б. Д.**

## ЗАХАД СОНЦА.

Сонца апускаецца
За далёкі лес,
Чырвань расьцілаецца
Па краю нябес.

Роскаю ўмываецца
Траўка на лугох,
Сьвежасьцю ўпіваецца
Колас на палёх.

Цень і змрок зьмяшаліся,
Мушкі ня жужжаць,
Птушкі пахаваліся —
Сьпеваў ня чуваць.

Ўжо імглой пакрыліся
Полейка і луг,
Гукі прыпыніліся —
Змоўкла ўсё ўвакруг.

Сонца закацілася
З ім і дзень пагас,
Зорка засьвяцілася,
Ночка йдзе да нас...

**А. Жук.**

# З веснаходу.

*Прысьвячаю „Шляху Моладзі“.*

Ішла вясна...

Звонка зьвінела, заліваючыся соладам трэля жаўрукоў у небе.

Зіяючы ў косах вясьнянага сонца, бурліва журчэлі разгонную песьню, пенілісь і скакалі руччы і ручайкі.

Ішла вясна вясёлая, радосная...

Ліпкім мёдам пахнуў сьвежы ліст распусьціўшагася лазьняку і дрэў; і нязьлічаным роем зьвінелі па ім маленькія працавітыя пчолкі.

Ішла вясна расквечаная, прыгожая...

На шаўковых дыванох палёў і сенажаці зацьвіталі нязьлічаныя ярка-стрыкатыя красачкі вішняку і язьміну і пырхалі тысячы рабаскрылых мятлікаў.

Ішла вясна бурлівая, юнацкая...

Ішла ў бурлівых парывах вясьняных вятроў.

У іскрыстых косках сонца,

У гулкіх раскатах першага грому,

У шмат-хварбных, ірдзістых зіяньнях вясёлак.

Ішла вясна разгульная, творчая...

І аджывала зямля і будзілась жыцьцё.

І ў змучанай людзкой душы аджывалі ізноў надзеі і жаданьні.

Ёсьць нейкая сьветла-таёмная радасьць у шаўковай красе вясьняных траваў і бліскучага аксаміту—маладога лісьця.

Ёсьць нейкая таёмная і парываючая краса ў радасных і бязьмежна творчых узмахах юнацкай душы.

Ёсьць нейкая цягуча-салодкая моц ў разгоне бурліва журчачых вясьняных руччоў.

Ёсьць нейкая ціхая і сьветлая пяшчотлівасьць у ўзмаху скрыл гутарліва-вясьнянага вецярку ў залаціста-сонечны дзень. Ах, як прыемна жыць і чуць сябе жывым вясной!

Чуць сябе часткай гэтай вялікай і прыгожай тайніцы — якую завём жыцьцём...

Чуць сябе часткай вечна-новага паходу жывых сіл, да сьвятла, да сонца, да Адраджэньня. **М. Машара.**

# „НА СОНЕЧНЫ БЕРАГ!“

*Маладыя мы*
*У грудзёх — агонь*
*Усе імкнём туды*
*Пад твой сьцяг, Пагонь!*
*М. Машара.*

Пад гэтакім загалоўкам, як мы ўжо падавалі ў прошлым № 5 „Шл. М.,“ нядаўна выйшаў з друку зборнік вершаў маладога беларускага песьняра Міхася М а ш а р ы.

Як сам загаловак, так і ўвесь зьмест гэтай прыгожай кніжыцы поўны сымболяў, веры ў лепшае заўтра і перамогу праўды і справядлівасьці над зьдзекамі і аблудаю. Малады наш пясьняр, сын працоўнае вёскі, сьмела падымае беларускі народны, бел-чырвона-белы сьцяг і бачыць, што толькі пад ім мы дойдзем да лепшага заўтра. Пясьняр чуе, што ён не адзін, з ім уся моладзь беларуская, якая на



МІХАСЬ МАШАРА

аўтар бацькаўшчыны гатова злажыць на‘т жыцьцё сваё. Вось кліч моладзі:

„...Наперад!
Праз цемру, праз сон і ману.
А згінем, дык згінем: ня шкода,
Ня страшна нам сьмерць, маладым.
Хто жыў, той памрэ для народу
Пад сьцягам Пагоні сьвятым!“

М. Машара гэта пясьняр новага пакаленьня, якое надыходзіць на падмогу нашым слаўным барацьбітом з Нашаніўскай пары. І дзіва! Паміма шалеючага нігілізму і раскелзаньня пачуцьця людзкой годнасьці на усходзе, паміма затручыванньня нашай душы на заходзе, маладое беларускае пакаленьне, вуснамі свайго песьняра заяўляе, што мы —

беларусы; наша мэта: вызваленьне беларускага народу з духовага і эканамічнага гныбленьня ворагаў—незалежнасьць, а далей — сужыцьцё з братнімі народамі, як роўны з роўным.

Калі зьвернем увагу на просты, прыгожы і свабодны, поўны абразовасьці стыль нашага песьняра, на яго сэнтымэнтальны лірызм, на яго жывую і абразовую эпіку і глыбокую элегію, то скажам, што ён выявіў вялікія паэтычныя здольнасьці. Вершы М. М. чытаюцца як нешта роднае, сваё, з чым так зжыўшыся наша душа. Няма ў гэтых вершах брутальнасьці, пажаданьня людзкой крыві і няшчасьця праціўнікаў, а таксама штучнасьці, а ёсьць спачуцьцё людзкой крыўдзе, любоў бацькаўшчыны, прыгоства беларускай прыроды, ідэалаў агульна людзкіх і асабістыя перажываньні.

Памінуўшы Купалу, Коласа, Бядулю, мала ёсьць сягоньня ў нас так багатых духам паэтаў, як М. Машара.

Дык жыві і красуйся, наш малады песьняр!

Парывай агністым словам сваіх калегаў, песьняроў і ўсю беларускую моладзь да барацьбы з крыўдай, за праўду, аж пакуль човен з пад знаку Пагоні не спачыне на ясным сонечным беразе!

**Я. Малецкі.**

## СЬМЯЛЬЧАК МАЛАДЫ.

Верш напісаны з нагоды выхаду ў сьвет зборніку вершаў М. Машары „На сонечны бераг!"

Узбурылась мора страшэннай навалай
Ды з пеністым ровам аж гнецца на скалы
І ў гуле іх топіць... Здаецца зямля
Дрыжыць у пасадах... ох, руне яна...
  І жах ахапляе усенька жывое.
  А людзі ўжо чуючы нешта страшное
  У роспачы шэпчуць: куды ўцякаць,
  Хто будзе так сьмелым, каб нас ратаваць?
А там што такое на хвалях высокіх,
Між пеністых водаў бяздонна глыбокіх?
А там што такое?... О, Божа сьвяты!
Плыве сярод мора сьмялчак малады.
  Напружыўшы рукі так вёслы ўздымае
  Што хваля за хваляй у даль уцякае
  І лодка імчыцца, стралою ляціць,
  Дзе сонечны бераг над морам ляжыць.
І лодка імчыцца, у прыстань кіруе,
Дзе ціша над морам-стыхіяй пануе.
Ужо кінуты якар. Выходзіць сьмяльчак,
А быў ім знаны нам паэта-юнак.

**В. Катовіч.**






## БЕЛАРУСІ.

Беларусь! Цябе кахаю!
Беларусь! Люблю цябе...
І Табою прысягаю
Й заклінаюся Табе.

Заклінаюся няволяй,
Што, як цень, з Табою йдзе,
Што Цябе, Цябе, ніколі
Не забудуся нігдзе.

Што Тваёю пуцявінай
Ўсё жыцьцё я буду йсьці
І да самай дамавіны
Крыж Твой буду я нясьці.

Ўсё ў жыцьці, што толькі маю,
Не мае яно — Твой дар...
Беларусь! Я прысягаю
Ўсё злажыць на Твой аўтар!

А. Росьцік.

## Na sonca, śviežaje pavietra i vadu!

Končyŭsia ŭžo školny hod, usia ščaślivaja moładź, jakaja mieła mahčymaść vučycca, śpiašyć adpačyć na śviežaje pavietra, pahrecca na soncy, pakupacca i nabrać sił da dalejšaj navuki. Uciecham, radaści i kanca niama, a idučy za kličam dnia „u zdarovym ciele — zdarovy duch", kožny choča jak najbolš užyvać sportu, jak najbolš karystać z bahaćciaŭ pryrody. Usiaho adnak treba ŭžyvać u mieru, i sportu, i bahaćciaŭ pryrody tak-ža. Pamiatać treba, što tady budzie zdarovaje cieła, jak budzie zdarovy rozum. Hetych voś paru słoŭ paśviačajem našym małodšym na pamiać padčas letnich vakacyjaŭ.

## Budoŭla termitaŭ.

Duža časta ŭ časopisiach, nia vyłučajučy i „Šlachu Moładzi", možna spatkać viestki ab vialikich budoŭlach słaŭnych inžynieraŭ, architektaŭ, jakija stojačy na čale vialikich hramad rabotnikaŭ, z padrabiaznymi vialikimi planami budujuć sa stali, hliny, cehłaŭ, cementu, kamieńniaŭ, dreva, piasku, a navat škła vysokija viežy, damy, vialikija fabryki, masty, kapajuć doŭhija tuneli i h. d. i h. d.

Mienš usie my zvaročvajem užahi na budovu maleńkich našych susiedziaŭ u pryrodzie, budoŭla jakich adbyvajecca časta ŭ vielmi ciažkich varunkach i nia mienš zasłuhoŭvaje na ŭvahu.

Jak pahladzim na našy maleńkija muraški, dyk ubačym, što jany zaŭsiody ŭ ruchu, zaŭsiody niedzie śpiašajuć, štoś niasuć i to časta niekalki razoŭ bolšaje ad siabie. Pabačym tak-ža, što hetyja nievialikija źviaratki z sasnovych ihołak (kalučak) roŭnieńka ŭkładajuć vializarnyja kapcy, jakich paśla zaŭziata baroniać.

Daloka adnak lepš papisvajucca bolšyja ichnyja svajaki ŭ Afrycy, jakija nazyvajucca termity. Termity—heta sapraŭdnyja mastaki ŭ budoŭli viežaŭ. Tam, dzie jość ich šmat, možna spatkać całyja vakolicy zabudavanyja davoli vysokimi, siahajučymi niekalkich metraŭ hlinianymi viežami. Viežy hetyja termity budujuć pastupova, pavierchami, jak heta vidać na rysunku № 2, svaimi łapkami z hliny zmočvajučy jaje ślinaju vyciakajučaju z łapak. Viežy termitaŭ zbudavanyja tak mocna, što vytrymlivajuć navat takija ziemlatrasieńni, padčas jakich valacca damy; ścieny ich hładkija, jak-by hlazuravanyja, prytym dla raźbićcia ich treba davoli mocnaje siły.



Rys. 1. Viežy termitaŭ.



Rys. 2. Sposab budoŭli termitaŭ.

Tak vyhladaje bolš-mienš budoŭla ŭ murašak termitaŭ. Jašče-ž cikaviej vyhladaje jana ŭ ptušak, ab čym napišam ŭ nastupnym numary. *—j—k.*

# Лісты

## ПОЛЬСКІЯ „КОЛЫ“ ЛАДЗЯЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПРАДСТАЎЛЕНЬНІ.

**Шкунцікі,** Дзісенскага пав. Апошнім часам наша моладзь, хоць і належыць да польскіх „колаў“ моладзі, досыць часта ладзіць беларускія прадстаўленьні, чым здабыла сабе сярод народу добрую апінію. На кожнае такое прадстаўленьне зьбіраецца многа людзей. Шмат іх было і на апошнім, якое адбылося ў першых днёх траўня с. г. ў памешканьні пачаткавае школы, каторае не магло памясьціць усіх прыбыўшых. Гэты раз на сцэне пастаўлена была шырока ведамая п'еска Родзевіча „Зьбянтэжаны Саўка“.

Самавукі артысты-аматары йгралі вельмі добра; асабліва ўдала йграў роль Саўкі Вязіцкі, які выклікаў буру воплескаў і цэлае мора сьмеху. У гэтыя мінуты вясёлага і здаровага сьмеху прысутныя хоць на хвіліну забывалі аб сваіх клапотах і горы, якіх так многа ў сучасным жыцьці нашае вёскі.

На прадстаўленьні даведаўся я, што ў самым „Kole Młodzieży Wiejskiej“ ідзе змаганьне часткі сьмялейшае і сьведамае беларускае моладзі з польскімі ўплывамі, прытым моладзь гэта хочаператварыць „Кола“ ў якую-колечы культурна-прасьветную арганізацыю беларускую. Гэта ўжо даўно пара зрабіць!

Чэсьць Вам хлопцы Шкунцікаўскага „Кола“, што Вы і ў чужую форму ўносіце свой беларускі зьмест і памятаеце аб сваіх абавязках. З Вас павінны ўзяць прыклад усе іншыя польскія арганізацыі моладзі на Беларусі.

Госьць.

**Zaleśsie,** Dzisienskaha pav. Niadaŭna «Koło Młodzieży Wiejskiej» ŭ Ureččy ładziła biełaruskaje pradstaŭleńnie. Pastaŭlena była pjesa Rodzieviča „Žbiantežany Saŭka“. Udała hrali Paŭka Ramančuk — rol Saŭki, i Janina Vasilkoŭskaja — rol Mahrety. Prysutnyja na pradstaŭleńni byli vielmi zadavoleny i ciešylisia, što moładź naša choć naleža da polskaje arhanizacyi, adnak nie zabyvaje ab biełaruskaści. Ciapier hetaje samaje „Koła“ maje ŭ chutkim času pastavić „Pasłanca“.

Tak i treba!

Prysutny.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Агульны Сход Б. Н. К.** 23.V. с. г. у Вільні адбыўся Агульны Гадавы Сход абноўленага на 1934—35 г. Беларускага Нацыянальнага Камітэту. На сходзе гэтым, пасьля справаздачы з дзейнасьці Прэзыдыюму за 1933—34 г. і прыняцьця яе да ведама, выбраны новы Прэзыдыюм на 1934-35 год у складзе: Я. Пазьняк — старшыня, В. Багдановіч і М. Манцэвіч — віцэ старшыні, А. Клімовіч — скарбнік і Ул. Казлоўскі — сэкрэтар. Сарганізавана была Праваслаўная, Каталіцкая і Школьная Камісіі і вынесены рад пастановаў і рэзалюцыяў, у якіх выяўлена ідэолёгія Камітэту, дамаганьні ад пануючых у Зах. Беларусі польскіх уладаў належных правоў беларусам, а так-жа і пратэст супроць зьдзеку над беларусамі ў Саветах.

**З дзейнасьці Б. С. С.** 19.V. с. г. у Беларускім Студэнскім Саюзе ў Вільні адбыўся рэфэрат студ. Грамыкі „Аб дзяржаве“, 27.V. с. г. адбыўся так-жа рэфэрат студ. Радзюка „Аб сусьветным эканамічным крызызе“. 17.VI. с. г. гэты-ж Студ. Саюз ладзіў вечарыну, падчас якой пастаўлена была п'еса Я. Хвораста „На поэтыцкай вышыні“ і выступаў хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы.

**Беларускі паэт Янка Быліна**, супрацоўнік „Шляху Моладзі“, які прабываў на леках у Закапаным, вярнуўся анагдай у Віленшчыну, значна паправіўшы ўжо сваё здароўе. Зборнік вершаў Я. Быліны п. н. „На рокісі“ ўжо паступіў у друк і выйдзе ў сьвет у канцы чэрвеня с. г.

**Рэфэрат аб творчасьці Купалы ў „Русском Обществе“.** 24.V. с. г. Літэратурная Сэкцыя „Русскаго Общества“ ў Вільні наладзіла вечар прысьвячаны беларускай літэратуры. Вечар распачаў уступным словам старшыня гэтае сэкцыі, ведамы расейскі літэрат і публіцыст Д. Д. Бохан. Пасьля грам. В. Багдановіч прачытаў парасейску рэфэрат аб творчасьці Я. Купалы. Па рэфэраце адбыліся дэклямацыі твораў Купалы, Коласа і Арсеньневай. На заканчэньне беларускі хор грам. Шырмы ўдала прапяяў некалькі беларускіх песьняў.

**Беларуская аўдыцыя ў Віленскім Радыё.** 12.VI. с. г. праз Віленскае радыё была надана беларуская аўдыцыя падчас якой грам. Фр. Аляхновіч чытаў(папольску??!) рэфэрат аб беларускім адраджэн. руху і рэцытаваў „Апокрыф“ М. Багдановіча, а хор С. Шырмы выканаў некалькі беларускіх песьняў.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

**Агульны Сход Т.Б.Ш.** 17.VI. с. г. у Вільні меўся адбыцца Агульны Сход Т-ва Бел. Школы. Да гэтага аднак не дайшло, бо паліцыя пазабірала з станцыі і з памешканьня ў якім меўся адбыцца сход большасьць правінцыянальных дэлегатаў.

**Заказ на зёлкі.** Бел. Кооп. Т-ва „Пчала" нядаўна атрымала з заграніцы вялікі заказ на лекарскія зёлкі, да выкананьня якога прыступе ў хуткім часе.

**Матуральныя экзаміны** у Віл. Бел. Гімназіі сёлета распачаліся 8.V.; прыступіла да іх 26 асобаў.

**„Купальле."** 3.VI. сёл. ў Вільні падчас „Сьвята песьні" было сарганізаванае ў меставым гародзе відовішча п. н. „Купальле,"у якое былі ўведзены пераложаныя на польскую мову беларускія песьні і скрыўлена ў бок расейшчыны народная беларуская „Лявоніха." Гэтым разам, як і заўсёды, паходжаньне беларускіх песьняў было небязмэтна скрыта. Адношаньні такія да беларускае народнае творчасьці распачала Віл. Польская Вучыцельская Сэмінарыя (хлапцоўская), за ёй пашло радыё, а далей і іншыя арганізацыі. Цяпер ужо беларускія народныя песьні ў польскіх руках называюцца толькі „piosenkami ludowemi." Гэткія вось паступкі зьяўляюцца больш чым някультурнымі, а людзі, якія так паступаюць, маючы пры гэтым вельмі многа прэтэнсіяў да культурнасьці і інтэлігенцыі, паказваюць сваё сапраўднае аблічча.

**З выдавецкае нівы.** Выдавецтва „Chryścijanskaje Dumki" нядаўна выдала новую кніжыцу Д. Аніські п. н. „Dla čyjho dabra?", у якой разглядаецца справа казаньняў у касьцеле. Кніжыца мае 16 бачын і каштуе 10 грашоў. Галоўны склад у бел. кнігарні „Пагоня," Вільня, Завальная 1—3.

**У польскай часопісі „Ruń"**, выдаванай ў Вільні для моладзі, ў № 8 знаходзім паміж іншым досьць добры пераклад на польскую мову вынятку з паэмы „Сымон Музыка" Якуба Коласа, у якім прыгожа апісана вясьняная раніца.

**З Б.С.С.Р. Сумны лёс П. Карузы.** „Наше Время" нядаўна зьмясьціла вестку, што быццам б. бел. пасол П. Каруза, які пару гадоў таму выехаў з Вільні ў няведамым кірунку, апынуўся ў Менску. Там камуністычныя ўлады выкрылі ў ім свайго ворага і „уничтожили" яго.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ.** У Латвіі адбыўся нацыяналістычны пераварот, у выніку якога ўсе нацыяналістычныя і соцыялістычныя арганізацыі разагнаны, а правадыры іх аказаліся за кратамі. — З гэтае-ж прычыны апынуўся ў вастрозе і кіраўнік Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы грам. Пігулеўскі. Дагэтуляшні дырэктар дзяржаўнае беларускае гімназіі ў Дзьвінску кс. Чаманс (латыш) у новым Урадзе зьяўляецца віцэміністрам Асьветы.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ.** 6. V. с. г. у Празе чэскай памёр шырокаведамы беларускі дзеяч М. Вяршынін. Нябожчык жыў стала ў Празе ад 1907 г. Быў ён так-жа дыплёматычным прадстаўніком Ураду Бел. Народнай Рэспублікі пры Урадзе чэхаслявацкім.

# Usiačyna

**Zabojstva min. Pierackaha.** 15 červienia s. h. ŭ Varšavie na vul. Foksal niaviedamy małady čałaviek 3 mia vystrałami z revolvara zabiŭ ministra ŭnutranych spraŭ Pierackaha. Uciakajučy hety-ž samy małady čałaviek raniŭ palicyjanta i vykinuŭ bombu, jakaja adnak nie razarvałasia. Złavić zabojcy dahetul nie ŭdałosia. Prezydent z hetaje pryčyny vydaŭ rasparadžeńnie, jakim uvodziacca ŭ Polščy ŭ žyćcio kancentracyjnyja łahiery, u katoryja sadžać buduć usich padazronych u dziejnaści pahražajučaj publičnamu spakoju.

**Vializarnaja harmata.** Hazety pišuć, što niamieckaja fabryka Kruppa zbudavała novuju harmatu, katoraja moža stralać na 400 kilametraŭ 120 cipudovymi snaradami.

**Padarožža pad vadu.** Amerykanski vučony padarožnik i daśledčyk William Beebe dumaje ŭ hetym hodzie apuścicca ŭ vadu na hłybiniu 1000 metraŭ. Raniej hety samy vučony apuščaŭsia ŭžo na 750 metraŭ.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Госьцю. Дзякуем, карыстаем. Просьба споўнена. Прывет.

В. Катовічу. Вершы слабаватыя, верым аднак, што ўзмацуюцца, пакрысе будзем карыстаць.

А. Жуку. „Географія Беларусі" каштуе 7.20 зл. „Гісторыя Беларусі 1,50 зл.

М. Ру—ку. Вершы слабыя, радзім пісаць прозай, бо ёй Вы зможаце быць больш карысным. Чытайце як найбольш беларускіх кніжак.

Н. Жальбе. Верш атрымалі, слабаваты, трэба больш над імі працаваць.

P. Ram—čuku. Prośbu častkova spaŭniajem, ab „Saśnie" budziem tady hawaryć, jak budziem mieć całaść. Žadajem udačy ŭ ładžańni pradstaŭleńniaŭ.

Гараўніку. Верш раней прысланы надрукуем магчыма ў наступным нумары, з цяпер прысланых можна будзе зьмясьціць "Да працы." Зборніку выдаць ня можам і думаем, што ў ём, перад адданьнем да друку, трэба было-б рабіць шмат паправак. Пішыце.

J. Šej—ku. Za padpisku dziakujem. Vieršy słabavatyja, pry tym strašna daŭhija. Pišycie karaciej i toje što Vam sapraŭdy daje natchnieńnie, a nie padbirajcie słovy. Paprabujcie pisać prozaj, moža chutčej štoś wyjdzie, i cennaść budzie jaje mahčyma bolšaja.

Навуму. Выкарыстаць з прысланага штось вельмі трудна, радзім больш чытаць і пяра ня кідаць.

Vałodźcy. Dziakujem za pamiać, prośbu spaŭniajem, za pracu čeść Vam i slava!

## КУТОК РАЗРЫВАК.

**Разьвязаньне круцігал. № 6**

КІРМАШ
BLINY
САЎХОЗ
ВАННА
ЛЕС
ГУСЬ
АРЦЁМ
МАСКВА
ЛЕЎШАК
BLACHA
ІКРА
КАЧКА

**Разьвязаньне круцігал. № 5:**

А Р А Б
Р Ы Б А
А Б О З
Б А З А

За разьвязаньне круцігалоўкі № 5 прыпала нагарода: зборнік вершаў Міхася Машары „На сонечны бераг!" грам. Ал. Мацуру. Нагарода за разьвязаньне круцігалоўкі № 6 кніжка „Казкі жыцьця" Тараса Гушчы прыпала грам. Ул. Рабізе.